# ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА

№ 11

Двухтыднёвая часопісь для меншых дзяцей

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ

1932 — 4 год выданьня


## ТРАМВАЙ

ХУТКА










Дзінь, дзінь, дзінь, дзінь, дзінь, дзінь!  
Зноў трамвай заводзіць.  
Ён да школы акцябратаў  
Кожны дзень падвозіць. } 2 разы

Дзінь, дзінь, дзінь, дзінь, дзінь, дзінь!  
Вось і наша школа.  
Злазьце, злазьце, памаленьку,  
Ганя і Мікола. } 2 разы


Адрас рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КАМСАМОЛЬСКАЯ, 25.








# СЬВЯТА ПІАНЭРАЎ

Мы дружнаю калёнай
Прайшлі вялікі шлях.
Зьяднаў дзяцей мільёны
Наш піанэрскі сьцяг.

Прышлі сталёвым шэрагам
На свой сьвяточны зьлёт—
Сягоньня піанэры
Мінула дзесяць год.

Расьце з нас пакаленьне
Байцоў-будаўнікоў,
Каб стаць надзейнай зьменай
Бацькоў—бальшавікоў.

# ПРЫВІТАНЬНІ ЮНЫМ ЛЕНІНЦАМ АД СТАРЫХ БАЛЬШАВІКОЎ



## ЗМАГАЙЦЕСЯ ЗА ВУЧОБУ

З-му пакаленьню бальшавікоў, важаку масы дзетвары—юным ленінцам да 10-гадовага юбілею—баявое прывітаньне ад бальшавікоў Беларусі!

Вам, дзецям пралетараў і калгасьнікаў, якія пераможна будуюць сацыялізм пад кіраўніцтвам партыі Леніна, прыдзецца канчаткова ўстанавіць камуністычнае грамадзтва.

Зы носіце імя Ўладзімера Ільліча Леніна.

Вывучайце-ж слаўны шлях барацьбы бальшавікоў за сацыялізм, выкоўвайце з сябе годную, здаровую зьмену камсамолу і партыі

Дні свайго слаўнага юбілею скарыстайце для яшчэ большага гартаваньня сваіх радоў.

Змагайцеся за якасьць вучобы, за сьвядомую дысцыпліну, за сацыялістычныя адносіны да працы і вучобы, за сапраўднае правядзеньне пастаноў ЦК аб школе, за інтэрнацыянальна-клясавае выхаваньне дзяцей усіх нацыянальнасьцяй.

Няхай жыве Дзіцячая Камуністычная арганізацыя юных піанэраў імя Ўладзімера Ільліча Леніна!

Няхай жыве ЎсеКП(б) і яе правадыр тав. Сталін!

**Сакратар ЦК КП(б)Б ГІКАЛО.**

# В І Т А Ю

ПІАНЭРАЎ САВЕЦКАГА САЮЗУ З ДЗЕСЯЦІГОДЗЬДЗЕМ ІХ АРГАНІЗАЦЫІ.

**М. КАЛІНІН.**



# БЯРЭЦЕ
## ПРЫКЛАД З ЛЕПШАГА ЛЕНІНЦА

Горача вітаю піанэраў і ўсю працоўную дзетвару БССР дзесяцігадовым юбілеем піанэрарганізацыі.

Многія сотні і тысячы барацьбітоў за сацыялізм вырасьлі за гэтыя гады з радоў піанэрыі. Яны стаяць поплеч са сваімі старэйшымі таварышамі на адказьнейшых вучастках сацыялістычнага будаўніцтва, зьяўляючыся прадстаўнікамі таго пакаленьня, што „здольна пабудаваць камунізм“.



Пасьпяховае разгортваньне сацыялістычнага будаўніцтва яшчэ больш узьнімае ролю і значэньне піанэрарганізацыі.

Піанэры! Уперад пад сьцягам Леніна, пад верным кіраўніцтвам кампартыі і яе ленінскага ЦК, на барацьбу за канчатковую перамогу сацыялізму.

Бярэце прыклад з лепшага ленінца— правадыра міжнароднага пралетарыяту— тав. Сталіна.

**Старшыня ЦВК БССР**
**А. ЧАРВЯКОЎ**

# Будзьце Гатовы!

23 мая ў 5 гадзін вечара вуліцы сталіцы Беларусі — Менску ажывіліся песьнямі, вясёлым гоманам тысяч дзяцей.

Піанэрская арганізацыя імя Леніна сьвяткавала першы дзень свайго слаўнага дзесяцігадовага юбілею.

Сотні сьцягоў, лёзунгаў, плякатаў красаваліся над морам дзіцячых галоў.

Вітаць дзяцей прышлі прадстаўнікі партыі, камсамолу і іншых грамадзкіх арганізацый.

— Да змаганьня за справу працоўных—будзьце гатовы!

— Заўжды гатовы!—зьвіняць тысячы зычных піанэрскіх галасоў у адказ на прывітаньні.

За гэтыя дзесяць год піанэрская арганізацыя імя Леніна вырасла да 6 мільёнаў.

Мільёнамі рук піанэры дапамагаюць старэйшым будаваць сацыялізм.

Зараз галоўная задача піанэраў—змагацца за вучобу, добра вучыцца самім, быць прыкладнымі для ўсіх дзяцей.

Піанэры і ўсе дзеці гэтую задачу павінны выканаць з посьпехам.





**АКЦЯБРАТА—ЗЬМЕНА ПІАНЭРАМ. ПІАНЭРЫ ПАВІННЫ КЛАПАЦІЦЦА АБ СВАЕЙ ЗЬМЕНЕ — ДАПАМАГАЦЬ ЕЙ ВУЧЫЦЦА І ПРАЦАВАЦЬ.**



# БРЫГАДЗІРША

АПАВЯДАНЬНЕ В. ГУБАРЭВА
МАЛЮНКІ Н. ПАШКЕВІЧА

1

Дзз-з-з!.. Трах!

— Ой!

Камень з трэскам разьбіў акно і ўляцеў у хату. Прыкусіўшы губу, каб не заплакаць, Волька хапілася за разьбітае калена. Кульгаючы, падышла да вакна.

— Так я і думала! Гэта ўсё ён—Сымонка.

Вось гэтак ужо каторы час. Ніхто ня можа нічога зрабіць яму. Сымонка бегае па вуліцах, прапускае заняткі, страляе з пушчалкі ў птушак і б'е вокны. Сымонка—ганьба для Вольчынай брыгады з чацьвертай групы.

— Ды ну яго!—раіць Вольцы Пагарэлаў. Заляпі шкло паперай ды ідзі. Займацца будзем.

— Дзівак ты які, — думае яна, — для яго Сымонка нібы чужы. Не, так не гадзіцца. Яна, накульгваючы, ідзе к сталу, дзе сядзяць трое з іх брыгады.

2

Волька—брыгадзір 6-й брыгады. У школе яна лепшая вучаніца. У атрадзе яна лепшая піанэрка. Волька—ударніца. Кожны дзень пасьля школы зьбіраецца яе брыгада на гадзіну-другую калектыўна займацца.

Ніхто ня ўмее так добра, як Волька, ладзіць гульні, песьні. Ніхто ня ўмее так дзелавіта і ясна, як Волька, растлумачыць таварышам з брыгады аб тым, чаго яны часамі ня ведаюць.

Усе дзеці ў атрадзе і школе моцна любяць Вольку.

Але вось бяда: Сымонка. Сёньня Волька прышла ў школу і ўбачыла на сьцяне сьпіс ударнікаў іх школы. Там і яе прозьвішча. Волька пачырванела: „якая я ўдарніца, калі ў маёй брыгадзе хуліган Сымонка?!

А як яго выправіць, калі ён б'ецца і ня ходзіць на заняткі брыгады?“

## 3

У чатыры гадзіны ў школе сабралася Вольчына брыгада. Брыгадзірша крыху спазьнілася. Іосьці далёка, ды і падбітая нага яшчэ баліць.

У школе дзеці горача спрачаюцца.

— Ды што-ж гэта такое?! Мы вучымся лепш за ўсіх у школе, адзін Сымонка ганьбіць нашу брыгаду.

— Выгнаць яго з брыгады!

— На чорную дошку!

У гэты час у школу ўвайшла Волька.

— Стойце, таварышы, чорная дошка—гэта яшчэ ня ўсё!




*Сымонка страляе з пушчалкі ў птушак і б'е вокны...*

— Вось яшчэ выдумала! А як-жа іначай?

— Як?—Волька крыху падумала.—А вось як. Сымонка ня хоча хадзіць да нас, дык мы да яго пойдзем. Проста ў хату! І будзем там займацца.

4

Сымонка быў ашаломлены. Ад зьдзіўленьня ён нават рот закрыць ня мог і стаяў моўчкі, гледзячы на брыгаду. Спачатку, калі селі займацца, ніяк не хацелася яму аставацца дома. Парашыў быў уцячы, але, зірнуўшы на бацьку, потым на таварышоў, уздыхнуў і прысеў да іх займацца.

Сымонка вельмі адстаў—гэта дзеці ведалі. Дзеля гэтага яны па чарзе тлумачылі яму прапушчанае раней.

Брыгадзірша, скоса зірнуўшы на Сымонку, заўважыла, што ён вельмі не ў сабе.

— Ты, Сымонка, пытайся, чаго ня ведаеш, — сказала яна.



*Сымонка парашыў уцячы...*

— Мне ўсё зразумела,—глуха адказаў ён. — Ты вось толькі скажы: мы зараз чыталі пра ўсхожасьць насеньня. Значыцца, каб ведаць, добрае насеньне ці не, трэба праверыць яго ўсхожасьць?

— Але.

Калі выходзіла брыгада, у яго ўсё так-жа бегалі ашаломленыя вочы. У Волькі зьявілася трывожная думка: „Няўжо і гэта не паможа? Няўжо так сабе, дарэмна?“

5

Ад вольчынай хаты да хаты Сымонкі далекавата. Сьпяшаецца Волька, задыхалася. А сама думае ўсё пра Сымонку: „Дома ці не? Ці будзе ён займацца? У школе-ж быў сёньня“.

Пастукала ў дзьверы. Вышаў бацька Сымонкі. Усьміхаецца.

— Дома, дома ваш падшэфны. Майструе нешта.

Яна з палёгкаю ўздыхнула. Асьцярожна прасунулася ў дзьверы. Сымонка стаяў, акружаны гаршкамі. У гаршкох тлусты чарназём. На стале — кучкі насеньня. Убачыў Вольку і засьмяяўся.

— А я вас усіх чакаю. Вось праверку ўсхожасьці зробім, як казаў настаўнік, а потым аб выніках паведамім калгас.

Раптам ён густа пачырванеў і запнуўся.

— Чаго ты, Сымонка?

— Вы са мной займацца прышлі, а вось... табе калена разьбіў... я не па злосьці, а так проста...

Волька зарагатала. Яе сьмех—гэта шчасьлівая радасьць ад перамогі і яе і ўсяе брыгады. Цяпер ужо брыгада будзе першай у школе. І яна, сьмяючыся, кажа Сымонку:

— Вось дзівак! Калі гэта было. Нага ўжо даўно перастала балець. Абы болей гэтага ня здарылася.



# МЫ абяцаем

ВЕРШ А. АЛЕКСАНДРОВІЧА
МАЛ. ШАХРАЙ

1

І Ясь, і Міколка, і Майя —
Мы голасна ўсім абяцаем,
Што жыць будзем гэтак цяпер,
Як лепшы жыве піанэр.
І клічам мы абавязкова
І іншых на гэтую ўмову.

2

Перш за ўсё, каб дужым стаць—
Мы ў пару кладземся спаць.
Сгроіць жарты-весялушкі,
Коўзаць коўдры і падушкі
Адвучыліся зусім.
Мы заўсёды добра сьпім.
Многа сіл прыносіць ён
Нам штодня—салодкі сон.

3

Кожнай раніцы адразу
Неабходны абавязак:
Возьмем шчоткі—зубы тром
Беласьнежным парашком.

Па чарзе, пад кранам, мыем
Рукі, вушы, твар і шыю.

---

**Чыста мыцца—наша ўмова.**
**Той, хто чысты—той здаровы.**



4

Перад сьнеданьнем, спачатку—
Фізкультурная зарадка.
За Міколкай і за Маяй
Ясь ніяк не пасьпявае.
Ён малы яшчэ, таму
Не ўдаецца так яму.

5

Майя і Міколка
Час праводзяць з толкам:
Клюб будуюць новы
Многапавярховы.
Усё зрабілі самі:
Сьцены, вокны, дзьверы.
Вырастуць майстрамі,
Будуць інжынэры.



6

На вуліцу выскачыў Ясь,
На вуліцы гразь, гразь.
— Дрэнны парадак,—сказаў.
Венік пабег адшукаў
І шустрымі рухамі рук
Шаруе запэцканы брук.



---

**Умова такая: дзе праца слабая,**
**Кожны, чым зможа, дапамагае.**



7

За работай на заводзе
Няпрыкметна час праходзе.
І Міколка точыць сталь.
Ён ударнік, ён—каваль.
Знае, што ў вясновы час
Трэба выслаць у калгас
Не адзін і не адну
Востры плуг і барану.

8



Майя—ўдарніца. Малая,
А старанна памагае
Ткаць паркаль, сукно, мультан
Для рабочых і сялян.

9

Нельга нядбайным
Быць да працы.
Сорам, звычайна,
З нядбайным вітацца
І ведаць пра гэткіх
усе павінны:

Тут жыве прагульшчык
Дубіна




На хату прагульшчыка гэты
плякат
Вывесіў наш піанэрскі атрад.

10

Сабраліся дзеці, зрабілі нараду.
Па роўну разьбіліся ўсе на брыгады
І разыйшліся з гоманам гулкім
На плошчы, на вуліцы і на завулкі.
Каб наша краіна была у машынах —
Зьбірайце уціль-сыравіну!

11

Разам з старэйшымі Ясь садзіцца
Вучыцца, вучыцца, вучыцца.
Колькі краін у Саюзе Савегаў —
Хутка і верна адкажа на гэта.
Яшчэ без запінкі адкажа ён,
Што такое—„Рот-фронт!“

12

Як чырвоныя абозы,
Стройна мчацца паравозы,
Адчыняйце сэмафоры —
Хлеб вязуць калгасы ў горад.
А ў калгасы бязупынна
З горадоў вязуць машыны.

---

Гэтак Ясь, Міколка, Майя
Абяцаньне выпаўняюць.

# Радыёпрыёмнік

Апав. Ус. ШЫДЛОЎСКАГА
Мал. А. ПАДВІШАНСКАГА



Далёка ад пошты, у глухім кутку раёну, знаходзіцца калгас „Расьсьвет“. Газэты калгас атрымлівае толькі на пяты дзень.

Неўзаметкі надышла вясна. Раўчукамі веснавой вады зьнікаў з палёў сьнег. Штодня павялічвалася ў рэчцы вада.

Праз некалькі дзён рака вышла з берагоў і заліла вадою сенажаці. Паводка зусім адрэзала „Расьсьвет“ ад пошты, ад раёну, ад суседніх калгасаў. Так і жылі дзесяць дзён абкружаныя вадою.

Юрка—вучань IV групы цікавіўся радыё. Кніжкі розныя аб гэтым чытаў. Як вада абкружыла калгас і ніякіх навін праз газэту даведацца нельга было, тады Юрка яшчэ больш чытаў кніжкі. Вось і надумаўся ён, каб радыё пабудаваць у калгасе.

З гэтаю думкаю аднойчы прышоў Юрка ў школу і заявіў настаўніку:

— Мікола Тамашавіч, ужо больш паўмесяца да нас газэты ня прыходзяць.

— Дык што-ж тут дзіўнага, паводка перашкодзіла.

— І паводкі ня было, а газэты на пяць дзён спазьняліся,—гаварыў Юрка. Давайце ў школе радыё-прыёмнік пабудуем, тады будзем слухаць штодня навіны.

Выслухаў настаўнік Юркаву прапанову і кажа:

— Гэта ўсё добра. Але грошай дзе возьмем?

— Грошы зьбяром сярод вучняў, — падаў думку Юрка,—на гэту справу дасьць кожны.

— Дадзім! Дадзім!—згадзіліся дзеці.

— А радыё-прыёмнік вы купляць паедзеце?

— Міколу Тамашавіча прасіць будзем,—загаварылі вучні.

Настаўнік усьміхнуўся, паглядзеў на вясёлыя тварыкі вучняў і згадзіўся:

— Хіба ўжо прыдзецца паехаць у выхадны дзень і купіць. Адно з грашыма не марудзьце.

* * *

У той-жа дзень, як вярнуўся з гораду настаўнік, у школе была вялікая ўрачыстасьць.

Пасьля заняткаў на школьны двор калгасьнікі прынесьлі дзьве доўгія сасновыя жэрдкі.

— А на што гэтыя жэрдкі?—пыталіся ў настаўніка вучні.

— Для антэны, дзеткі, для антэны.

— А што гэта за антэна?

— Зараз убачыце...

І настаўнік узяў жоўты медны дрот.

— Вось гэта і ёсьць канацік для антэны. Мы зараз прымацуем адну жэрдку да бярэзіны, а другую паставім каля школы і нацягнем паміж імі гэты канацік.

Калгасьнікі падрыхтоўвалі жэрдкі, а настаўнік гэтым часам прывязваў да абодвых канцоў антэннага канаціка па дзьве фарфуровыя кацёлачкі.

— Што гэта вы такое прывязваеце?—цікавіліся вучні.

— Гэта арэшкавыя ізалятары,—тлумачыў настаўнік.— Яны патрэбны для таго, каб дрот ня злучаўся з жэрдкай, бо тады радыё чуваць ня будзе. Яно ўсё праз жэрдку ў зямлю ўцячэ. А гэтыя ізалятары ня пускаюць яго ў зямлю і па провадзе пасылаюць у прыёмнік.

Канец дроту з ізалятарамі прывязалі за жэрдку, а жэрдку паднялі высока над бярозай і прывязалі яе вяроўкай.

— Уга, як высока! — дзівіліся дзеці,—чуць не да хмар дастае.

Да другой жэрдкі прымацавалі ў канцы круглую кацёлачку з раўчуком пасярэдзіне. Настаўнік яе называў блокам. Цераз гэты блок перацягнулі доўгую вяроўку і прывязалі яе за другі канец антэны. Жэрдку паставілі каля самай школы і прыбілі яе цьвікамі да страхі. Потым па-



*Ужо больш за паўмесяца да нас газэты ня прыходзяць...*

цягнулі за канец вяроўкі, які быў перакінуты цераз блок, і паміж двух жэрдак павіс дрот.

— Вось і антэна гатова,—сказаў настаўнік.

— А нашто гэты дрот матаецца?—пыталі вучні пра дрот, што быў прывязан за антэну недалёка ад ізалятара і даставаў да зямлі.

— Гэта адвод,—тлумачыў Міксла Тамашавіч,—ён будзе злучаць антэну з прыёмнікам.

— А-а-а, вось для чаго ён...—шматзначна заўважыў Юрка,—а я думаў, што яго трэба адрэзаць.

Дзеці засьмяяліся.

— Які ты ўпраўны.

— А што цяпер рабіць будзем?—пыталі вучні.

— Цяпер зазямленьне зробім,—адказаў настаўнік.

Каля вакна выкапалі яму глыбінёю на паўтара мэтра, потым узялі кавалак дроту і прывязалі да яго невялікі ліст бляхі. Бляху з дротам апусьцілі ў яму.

— Цяпер зноў засыпайце яму,—сказаў настаўнік.

Дзеці гуртам кінуліся засыпаць яму.

— Вось і зазямленьне гатова. Зараз у вакне пракруцім дзьве дзіркі,—сказаў настаўнік.

Калі дзіркі былі пракручаны, у кожную з іх уставілі фарфуровую трубачку, праз адну трубачку працягнулі ў сярэдзіну клясы дрот ад зазямленьня, а праз другую—адвод.

— Гэтыя трубачкі патрэбны дзеля таго, каб дрот не датыкаўся да дрэва брамы,—тлумачыў настаўнік.

Як на двары ўсё было скончана, тады пашлі ў школу.

Настаўнік прынёс чорную блішчастую скрыначку і паставіў яе на вакне. Потым прыкруціў да шрубак гэтае скрыначкі дрот ад зазямленьня і адвод. У дзьве маленькія дзірачкі ў прыёмніку ўставіў чорныя з блішчастым абручом навушнікі. (Настаўнік назваў іх тэлефонам). Ён надзеў



 *А ўвосень усе слухалі радыё*

гэтыя навушнікі на галаву і пачаў слухаць, водзячы пальцам па нейкіх кацёлачках.

Потым паклікаў да сябе Юрку, надзеў яму на галаву навушнікі і сказаў:

— Слухай.

Юрка ўсьміхнуўся.

— Чуваць... Гаворыць Менск.

— Менск...—прашапталі вучні, і ў клясе стала зусім ціха, нібы ўсё замерла. Усім хацелася чуць, што гаворыць горад.

Многа радасьці прынесла дзецям радыё. У той дзень кожны з вучняў паслухаў, як тоненькім голасам гаварыла радыё і кожны адчуваў сябе шчасьлівым і вясёлым.

— Гэта-ж дзе Менск, а як добра чуваць.

* * *

З таго часу кожны дзень вучні групкамі, калектыўна хадзілі ў школу слухаць радыё. Адзін аднаму перадавалі навушнікі, а потым расказвалі, хто што чуў.

Дарослыя калгасьнікі таксама прыходзілі слухаць навіны па радыё.

— Няёмкае ўсё-ж такі ваша радыё: адзін слухае а астатнія толькі сядзяць ды глядзяць. Трэба пабудаваць вялікае,—сказаў аднойчы чырвонаармеец Лукаш.—У нас у палку было, дык тысячы слухалі.

Так і зрабілі. Увосень калгас купіў для школы вялікі прыёмнік з лямпамі, а к яму прыставілі гучнагаварыцель. Голасна тады загаварыла радыё на ўсю школу. Увечары калгасьнікі прыходзілі і слухалі навіны аб будаўніцтве новых заводаў і фабрык, аб новых электрастанцыях, аб змаганьні калгасаў за новую сацыялістычную гаспадарку. Слухалі пра жыцьцё рабочых за мяжой.

ЯНКА ШАЎР

# Апавяданьне пра торф

МАЛЮНКІ ТЫЧЫНЫ

Балоты...

На дзесяткі, сотні кілёмэтраў цягнуцца яны ў розных мясцох Беларусі. У Палескіх балотах зьмясьцілася-б нават якая-небудзь Эстонія ці Голяндыя, або іншая буржуазная дзяржава.

Ні праехаць, ні прайсьці, ні скарыстаць гэтыя балоты. Заместа 5 кілёмэтраў, трэба ехаць навакол 30 кілёмэтраў. Заместа 300 кілёграмаў на возе можна везьці па балотных грэблях толькі 50 кілёграмаў.

Глядзеў селянін на гэтыя балоты і ўздыхаў:

— Эх, каб заместа іх ды добрая зямля! А то няшчасьце адно...

**Край наш родны, край наш бедны:**
**Гразь, балота ды пясок...**

з сумам сьпяваў калісьці паэт Якуб Колас. І сотні гадоў пакорна цярпеў селянін панаваньне балот. Нічога не парадзіш, так яно здаўна вялося.

Балоты...

Калісьці заместа іх былі азёры. Вялікія, чыстыя. І хвалі хадзілі па іх, нібы па моры.

Але па берагох замацавалася трава, расла, гніла, апускалася на дно, пасоўвалася наперад. Сьледам за ёй ішоў мох і заваёўваў возера.

Ішлі гады. Трава і мох прасоўваліся ўсё далей і далей. Вось ужо берагі навакол на шмат кілёмэтраў ператварыліся ў балота. Толькі ў сярэдзіне застаецца вада.

Ідуць гады, тысячагодзьдзі. Трава і мох упарта наступаюць. Некаторыя жвавыя вадзяныя расьліны забягаюць наперад і растуць на паверхні вады, не дасягаючы дна карэньнямі. Калі яны паміраюць, дык апускаюцца на дно, паступова зьмяншаюць глыбіню возера і падрыхтоўваюць глебу для наступу расьлін з берагоў. Вось ужо сярод возера, на менш глыбокіх мясцох, стварыліся зялёныя выспы. Толькі сям-там блішчыць яшчэ вада. Нарэшце і яна зьнікае. Балота праглынула возера.

Але праца расьлін ня спыняецца. Яны растуць, множацца, гінуць, апускаюцца глыбей. На іх сьпінах растуць новыя пакаленьні, таксама гніюць, апускаюцца, прыціскаюць ніжнія пласты. Балота робіцца „гусьцей“, цьвярдзей.

Але ў вадзе няма паветра, таму расьліна ня можа зусім згнісьці.

Вось з такіх расьлін і ствараецца торф.

Самыя старыя балоты маюць сухі, шчыльны торф. Часта на іх пачынае расьці лес.

Больш маладыя балоты (багна, дрыгва) яшчэ шчыльна не запоўнены ўнізе. У іх можна ўтапіцца. Але праз сотні гадоў і яны ператвараюцца ў досыць сухія тарфяныя балоты.

Больш за два мільёны гэктараў займаюць балоты ў БССР. Бадай гэтулькі сама, колькі пасевы. Непатрэбная, бескарысная, нават шкодная зямля!

Але што з ёю зробіш? Супроць прыроды не папрэш.



*На месцы нашых балот былі калісьці, тысячы гадоў тому назад, вялікія вазёры.*

Дзяды і прадзеды гэтак жылі. І жылі-б яшчэ доўга, каб ня

## ПРЫШОЎ КАСТРЫЧНІК.

Прагналі працоўныя буржуяў і памешчыкаў, разьвязалі свае путы, узяліся за пабудову новага жыцьця, прыцягнулі на дапамогу навуку і тэхніку — і ўбачылі, што яны самі гаспадары ня толькі свайго жыцьця, але і прыроды.

„Няма такіх перашкод, якіх не маглі-б перамагчы бальшавікі"—сказаў тав. **Сталін.**

Калі балоты перашкаджаюць — трэба іх перамагчы, прымусіць даваць карысьць працоўным.

І пачалі ў нас капаць канавы, асушаць балоты і гэктар за гэктарам адваёўваць у іх зямлю. І на былой дрыгве пачалі красавацца палі, вырастаць будынкі калгасаў. А балотная зямля пачала даваць ураджай нават лепшы, як „добрая" зямля.

Гэта толькі першыя шагі, першая пяцігодка. Пройдзе яшчэ адна-другая пяцігодка і ад балот і сьледу не застанецца.

Апрача таго, ад гэтай работы мы маем карысны дадатковы прадукт—торф.

Перш за ўсё торф — гэта апал. Ведалі і раней, што торф можа служыць апалам; сям-там ужывалі яго, але глядзелі на гэта, як на нейкае няшчасьце, калі ніякага іншага апалу няма. Ды і клопату шмат з ім.

Ня думалі ранейшыя гаспадары краіны, што торфам мы можам рухаць вялізарныя электрастанцыі, фабрыкі і заводы. Ды нават хоць-бы і падумалі, дык нічога-б не змаглі зрабіць у беднай адсталай краіне, якую яны самі наўмысьля трымалі ў цемры.

Такую задачу магла сабе паставіць толькі краіна савецкая, індустрыялізаваная. Таму мы цяпер здабываем торфу разоў у 120 болей як раней. Таму шмат



*Балоты даюць торф, якім мы можам рухаць электрастанцыі, фабрыкі і заводы*

нашых фабрык і заводаў (напрыклад шкляныя) працуюць на торфе і зьберагаюць нам тысячы гэктараў лесу штогод.

Але важней за ўсё раённыя электрастанцыі. Адна такая электрастанцыя, імя Сталіна, працуе на Асінаўскім балоце, каля Воршы. Яна рухае машыны за 120 кілёмэтраў вакол сябе: у Магілеве, Віцебску, Шклове, абслугоўвае і ажыўляе ўвесь раён вакол сябе.

Другая, яшчэ больш магутная электрастанцыя, будуецца каля Гомелю, потым—у Сьвіслачы, Быхаве. А далей такія самыя станцыі зьявяцца на поўдні, у цэнтры, на поўначы, на захадзе БССР.

Уся краіна, нібы павуціньнем, будзе аплецена электрычнымі правадамі. Усякія машыны будзе круціць электрычнасьць. Нават хлеб будзе пячы, бялізну мыць, кароў даіць і авечак стрыгчы...

**І ўсё гэта буцуць даваць тыя балоты, якія лічыліся няшчасьцем для Беларусі.** (*Канец будзе*).

# ЯК зрабіць клетку для трусоў

Найлепшай пародай трусоў для нашай мясцовасьці зьяўляецца—„Шыншыла“. Але зараз трусоў гэтае пароды вельмі мала. Таму трэба набываць тыя, якія ёсьць. Купіўшы пародзістых самцоў, можна з дрэннае пароды дабіцца лепшае.

Дзе можна дастаць трусоў?

Пародзістыя трусы прадаюцца ў гаспадарчых аб‘яднаньнях Белпушніны ў Менску, Барысаве, Воршы і інш. Каштуе трус пароды „Шыншыла“ 26 р. 10 к. Трусіц можна набыць у Сіроцінскім, Глускім, Сеньненскім і ў другіх раёнах, дзе яны ёсьць.

Дзе лепш трымаць трусоў?

Звычайна трусоў трымаюць у клетках, у знарочыстых загарадах у будынках, на двары і інш.

Найбольш пашыраны спосаб—клетачны. Ён не патрабуе многа месца, бо клеткі можна ставіць у некалькі радоў, адна на другую.

Як зрабіць клетку?

Для клеткі можна скарыстаць любы матар‘ял, які толькі ёсьць у вас пад рукамі. Напрыклад, дошкі ад розных скрынак, а таксама фанэру. Клеткі павінны быць аднаго разьмеру.

Які разьмер клетак?

Даўжыня клеткі павінна быць адзін мэтр, шырыня 65 сантымэтраў і вышыня 70 сантымэтраў. Вышыня задняй сьценкі павінна быць ніжэй сярэдняй з тым разьлікам, каб быў пакат страхі клеткі для сьцёку вады, калі клеткі будуць стаяць на двары. Бакавыя сьценкі і задняя павінны быць суцэльныя. Звычайна яны робяцца з фанэры, а пярэдняя сьценка абцягваецца драцяным сітам. Калі сіта



*Клетка для труса з кармушкай*



*Гняздо для трусіцы. Яно робіцца трохсьценнае, з фанэры*



*Гліняная кармушка для крышаных кармоў, зярнят і вады*

няма дзе купіць, тады можна зрабіць самому.

Сіта драцяное павінна быць густое, каб тхары, пацукі і мышы не маглі залезьці ў клетку і падушыць маленькіх трусянят.

Дзьверцы ў клетцы павінны мець удаўжкі ня больш 60 сантымэтраў, а апошнія 40 сантымэтраў зацягваюцца тоўстым дротам зьверху ўніз. Там павінна быць кармушка. Акрамя ўсяго гэтага, трэба мець гнёзды для самак. Яны ставяцца ў клеткі тады, калі трусіцы надыходзіць пара каціцца (дзён за дзесяць раней да акоту).

Клетка мае такі выгляд:

Дно клеткі робіцца рашотачнае з дзеравяных плячачак з такім разьлікам, каб памёт трусоў мог выкідацца ўніз.

Унізе, пад клеткай, трэба прымацаваць ліст прасмаленай фанэры. Робіцца гэта для таго, каб рэдкі гной мог сьцякаць па гэтай фанэры, не пападаючы ў другую клетку, калі яны будуць стаяць адна на другой.

**Аграном Д. КРЭЗО.**

# ПАДУМАЙ

## ЗАГАДКІ

1. Хто малюе бяз рук і карандаша.
2. Ідзе ўвесь час, а з месца не кранецца.
3. Не пчала, а гудзе, крыльлямі не махае, а лятае.

## ХТО ГЭТА?

Ен спакойны і трусьлівы —
Не кране нікога.
Невялічкая жывёла,
А карысьці многа.

## МАНАГРАМА

З „К“ — на дрэве ўбачыш,
З „Н“ — зроблена ў зямлі,
З „Г“ — узвышша.

## АДКАЗЫ НА ЗАГАДКІ З № 9

**Прапушчаныя словы ў вершы знойдзеце ў № 5 часопісі. Там быў надрукаваны верш поўнасьцю.**

## МАНАГРАМА

Брук
Грук
Друк
Крук

# ГУЛЬНІ

## ЗЛАВІ МЯНЕ



Гэта гульня вельмі вясёлая. Адразу гуляюць двое, а астатнія, чакаючы свае чаргі, сочаць за імі (гл. малюнак).

Для гульні патрэбен кіёк і дзьве вяроўкі даўжынёю па чатыры мэтры кожная. Акрамя гэтага, трэба зрабіць два каўпачкі з паперы, ці дастаць дзьве хустачкі—імі ў час гульні будуць закрывацца вочы.

### Як гуляць

1. Трэба прывязаць вяроўку адным канцом да нагі, а другім за кіёк, што моцна ўкопаны ў зямлю. Далей, перад гульнёю абодва ўдзельнікі закрываюць вочы папяровымі каўпачкамі, ці завязваюць іх хустачкамі.

2. Як толькі кіраўнік гульні засьвішча ў сьвісток, або скажа „пачынай“—удзельнікі прабуюць лавіць адзін другога. Яны бегаюць то назад, то наперад, але адзін ня ведае, дзе знаходзіцца другі.

3. Гульня качаецца тады, калі адзін зловіць другога. Пераможцам лічыцца той, хто зловіць свайго таварыша.

# ВАРАНЯТЫ



А вось яшчэ адна гульня. Яна разьвівае спрытнасьць рукі.

Што трэба, каб наладзіць гульню?

Дастаньце 8, можна 10 бутэляк, жменю ці дзьве гароху альбо маленькіх каменчыкаў, зрабеце папяровыя маскі з галоўкамі варанятаў. Калі вы самі ня можаце зрабіць гэтых масак, дык папрасеце старэйшых. Зрабіўшы маскі, надзеньце іх на бутэлькі (гл. малюнак). Бутэлькі пастаўце ў радок, але далекавата адна ад другой, каб не перашкаджаць адзін другому кідаць гарошынкі ў дзюбу.

## Як гуляць?

Удзельнікі гульні падзяляюцца на групкі. У групе павінна быць столькі чалавек, колькі ёсьць варанят.

Кожнаму ўдзельніку даецца па 3 гарошынкі альбо каменчыкі.

Калі ўсе атрымаюць каменчыкі — тады становяцца ў рад насупроць свайго вараняці. Па камандзе кіраўніка ўдзельнікі падымаюць правую руку на ўзровень пляча і апускаюць каменчык у раскрытую дзюбу.

Калі скончаць гульню, кіраўнік падлічвае, колькі гарошын трапіла варанятам. Выйграе ў канцы гульні тая група, якая больш укінула гарошынак ці каменчыкаў.

ЗЬМЕСТ



Мастацкае афармленьне нумару мастака Ізмайлава.

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

Рэдактары: Л. РУСАКОВА. А. ЯКІМОВІЧ.

ЦАНА № 18 КАП.

928

# ПАДПІСВАЙЦЕС

на 2-тыднёвую ілюстраван

акцябрацкую часопі

# ІСКРЫ ІЛЬЛІЧ

„ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА" знаёмяць дзяцей у даступнай ім форме з нашым сацыялістычным будаўніцтвам і жыцьцём працоўных і іх дзяцей у буржуазных краінах. Часопісь арганізуе дзяцей на пасільны ўдзел у сацыялістычным будаўніцтве.

„ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА" даюць у кожным нумары апавяданьні, нарысы, вершы, песьні, гульні, п'ескі, галаваломкі і іншыя матар'ялы. Часопісь друкуе для сваіх падпісчыкаў дармовыя дадаткі.

Усе дзеці павінны чытаць сваю часопісь

# ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА

Сьпяшайцеся падпісацца на часопісь на ўсё лета!

## УМОВЫ ПАДПІСКІ

| | |
|---|---|
| На 3 месяцы . . . | 90 кап. |
| „ 6 „ . . . | 1 р. 80 „ |
| „ 1 год . . . . . | 3 р. 60 „ |

Падпіску здавайце на пошту і лістаносцам

Друкарня імя Сталіна Зак. № 1316. 3600 экз. Уп. Галоўлітбелу А-